Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

ІВАЦЭВІЧЫ–БАРАНАВІЧЫ–БЯРОЗА

# Газета для вас

24 верасня 1997 года
СЕРАДА
№ 52
Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы – 750 руб.
Цана ў розніцу – 1.000 руб.

## ЧАС МЯСЦОВЫ

БАРАНАВІЧЫ

### Возера стане жамчужынай

Возера Жлобінскае на ўсходняй ускраіне горада, забытае ўсімі, паступова забалочвалася, зарастала асакой і трыснягом. Калісьці тут размяшчалася лодачная станцыя, гэта было любімым месцам адпачынку. Цяпер жа тут нават не купаюцца: гарадскі цэнтр гігіены і эпідэміялогіі забараніў лезці ў брудную ваду. Гадоў дзесяць таму сюды прыгналі земснарад, з яго дапамогай спрабавалі ачысціць глеістае дно. Не атрымалася – не хапіла духу давесці справу да канца.

Сёлета Беларускі навукова-даследчы інстытут горадабудаўніцтва распрацаваў праект ачысткі і добраўпарадкавання возера. Калі ён увасобіцца ў рэальнасць, Жлобінскае возера стане блакітнай жамчужынай горада.

### Кожнаму мікрараёну–па рынку

Сёмы міні-рынак пачаў праекціраваць намеснік начальніка ўпраўлення архітэктуры і горадабудаўніцтва Баляслаў Іосіфавіч Тумашчык. Шэсць дзеючых гандлёвых пляцовак удала размешчаны па ўсяму гораду: па вуліцы Савецкай, ля чыгуначнай станцыі Баранавічы-Палескія, ля магазіна „Пінск" (Паўночны мікрараён), па вуліцы Грунтовай, у пасёлку тэкстыльшчыкаў і ў паўднёвым жылым масіве. Сёмаму адведзена месца ў другіх Трацяках. Акрамя іх, у многіх кварталах пастаўлены па два-тры рады прылаўкаў. Гараджане пазбаўлены неабходнасці ездзіць па гародніну і садавіну з аднаго канца горада ў другі: неабходныя прадукты заўсёды пад рукой на рынку свайго мікрараёна.

### Дзяржстрах супраць урагану

Чэрвеньскі ўраган сваім чорным крылом зачапіў вёскі Баранавіцкага раёна. Нанесены страты на 2 мільярды 662 мільёны рублёў, якія прадстаўніцтва Дзяржстраху па раёну ўжо кампенсавала.

Выплаты маглі быць большымі, каб усе адміністратары і ўладальнікі пабудоў загадзя паклапаціліся пра ахову нерухомасці ад стыхійных бедстваў і даверылі гэтую справу Дзяржстраху.

### На зарадку станавіся!

Як ні цяжка Баранавіцкай швейнай фабрыцы імя С. Грыцаўца, а знайшліся тут сродкі на ўзвядзенне свайго дома фізкультуры, які вырас побач з прадпрыемствам. Вось-вось пачнуць працаваць спартыўныя секцыі па гімнастыцы, акрабатыцы, валейболу і іншыя. Работнікам фабрыкі ёсць цяпер магчымасць свой вольны час прысвячаць спорту.

### Адчыніў дзверы і паплаціўся

Верасьнёўскай раніцай незнаёмцы наведаліся да выкладчыка аднаго з баранавіцкіх ПТВ для таго, каб быццам бы перадаць яму запіску ад жонкі, якой сапраўды ў гэты момант не было дома. Хітрасць удалася. Трое рабаўнікоў уварваліся ў кватэру, забралі 6 мільёнаў рублёў, 2100 долараў, залатыя вырабы і зніклі. Добра, што пацярпелы не разгубіўся і праз 15 хвілінаў заявіў аб здарэнні ў гарадскі аддзел унутраных спраў, паведаміўшы апаратыўнікам асаблівасці паводзін зламыснікаў, якія ён запомніў. На пятыя суткі яны былі затрыманы.

### Горкі водар макавай саломкі

Колькі міліцыя не папярэджвала вясковае насельніцтва не сеяць мак, аднак да слушных слоў мала хто прыслухоўваецца. Гэта на руку дзялкам ад наркабізнесу, якія не дрэмлюць. Яны рэз'язджаюць па вёсках і за мізэр скупліваюць макавую саломку.

Міліцыя таксама не дрэмле. Нядаўна яе работнікі затрымалі з доказамі злачынства 30-гадовага жыхара Баранавічаў. У яго кватэры захоўвалася 800 грамаў скрышанай макавай саломкі і дзве бутэлькі са спецыяльным растваральнікам.

БЯРОЗА



*Якія толькі страхі не расказваюць пра грыбы. Мала таго, што многія з іх назапашваюць радыяцыю, дык і выпадкі атручвання прыдатнымі да яды грыбамі былі. Але нашых людзей не палохае нічога. Вунь якое задавальненне на твары жанчыны, якая на сваім падворку даводзіць да ладу прынесеныя з лесу дары.*

*Прыслухайцеся да спецыялістаў! Яны раяць правяраць грыбы на радыяцыю, каб не прынеслі лясныя прыгажуны вашаму здароўю шкоду.*

*Фота А. ГАНЧУКА.*

### Адабралі кватэру. У мэра

Непрыемнасці для мэра горада – старшыні Белаазёрскага гарадскога Савета дэпутатаў В. М. Банасевіча – пачаліся яшчэ ў красавіку гэтага года. Пасля праверкі работы гарсавета дзяржкантролем Рэспублікі Беларусь ён быў вызвалены ад пасады... па уласнаму жаданню. Якія прэтэнзіі прад'явілі дзяржкантроль незадачліваму мэру? Пра гэта жыхары горада і раёна даведаліся дакладна ўжо ў чэрвені гэтага года пасля таго, як пазачарговае паседжанне Бярозаўскага райвыканкама ўнесла прапанову прыпыніць рашэнне Белаазёрскага гарсавета аб паўторным выбранні яго старшынёй В. М. Банасевіча. І прычыну такога рашэння назвалі: старшыня Белаазёрскага гарсавета неаднаразова парушаў заканадаўства пры размеркаванні і абмене кватэраў, за што меў пакаранні. Акрамя гэтага, ён аднаасобна змяніў два рашэнні гарсавета, якія датычыліся пастаноўкі на ўлік на паляпшэнне жыллёвых умоў сваёй сям'і, што па сутнасці было ўжо службовым падлогам.

Далей падзеі развіваліся імкліва. Рашэнне сесіі Белаазёрскага гарадскога Савета дэпутатаў аб паўторным выбранні старшынёй В. М. Банасевіча было прыпынена. Пракуратура Бярозаўскага раёна правяла праверку законнасці атрымання В. М. Банасевічам чатырохпакаёвай кватэры і зрабіла вывады, што яна атрымана на падставе службовага падлогу. (Дадамо, што В. М. Банасевіч за сабой захаваў і двухпакаёвую кватэру, прыватызаваную).

З усімі гэтымі вывадамі і абвінавачваннямі ў свой адрас В. М. Банасевіч не пагадзіўся. Больш таго, ён палічыў, што напісаць заяву аб звальненні з пасады мэра Белаазёрска яго прымусілі. І падаў адпаведны іск у суд.

Справа нядаўна разглядалася ў Драгічынскім раённым судзе. Суд прыняў да ўвагі ацэнкі службовай дзейнасці В. М. Банасевіча Бярозаўскім райвыканкамам, а таксама матэрыялы пракуратуры раёна аб неаднаразовым парушэнні мэрам Белаазёрска жыллёвага заканадаўства, атрыманні незаконным шляхам чатырохпакаёвай кватэры. І мэр пацярпеў, як гаворыцца, фіяска. Згодна з рашэннем суда ён пазбаўлены чатырохпакаёвай кватэры і павінен перасяліцца ў сваю двухпакаёвую прыватызаваную. Аб аднаўленні на рабоце В. М. Банасевічу адмоўлена.

ІВАЦЭВІЧЫ

### Дом дзіцячай творчасці чакае наваселле. Нарэшце!

Наша газета на працягу апошніх двух гадоў неаднаразова пісала аб праблемах Івацэвіцкага Дома дзіцячай творчасці, які, як вядома, перажываў нялёгкія часы з-за таго, што яго памяшканні (столь і сцены) аказаліся пашкоджанымі аварыяй ацяпляльнай сістэмы. Пасля таго, як СШ № 1 заняла прыгожы і новы будынак школы, другі і трэці паверх, актавая зала старога яе памяшкання былі выдзелены Дому дзіцячай творчасці. Але і ў гэтых памяшканнях патрэбен быў рамонт. І немалы.

Не будзем цяпер узгадваць, колькі сіл і намаганняў прыклалі работнікі Дома дзіцячай творчасці, колькі слёзных просьбаў выказалі, каб пераканаць мясцовыя ўлады ў хутчэйшым рамонце памяшканняў. Цяпер, здаецца, усё гэта ў мінулым. Раённы аддзел адукацыі аказвае Дому ўсялякую дапамогу ў вырашэнні шматлікіх пытанняў, няма затрымак у фінансаванні рамонтных работаў. А іх у асноўным вядзе ДБПМК-34 і, трэба прызнаць, – добрасумленна і якасна. Частка былых класных пакояў, а цяпер кабінетаў прыведзена ўжо ў парадак, адрамантаваны вокны і дзверы. Гатова да работы ацяпляльная сістэма і сістэма электразабеспячэння.

Такім чынам, наваселле Дома дзіцячай творчасці не за гарамі. Прынамсі, Новы год шматлікія гурткі, клубы, студыі і іх няўрымслівыя члены – хлопчыкі і дзяўчынкі – сустрэнуць у новых, як гаворыцца, апартаментах.

### Няхай жыве з'езд настаўнікаў

Прагучаўшая 1 верасня прапанова Прэзідэнта А. Лукашэнкі аб скліканні з'езда настаўнікаў рэспублікі абяцае стаць рэальнасцю ў першых чыслах кастрычніка.

Часу на падрыхтоўку да такога маштабнага мерапрыемства зусім мала, таму ад педагогаў патрабуецца армейская арганізаванасць і дысцыпліна. У пажарным парадку ў раёне склікана канферэнцыя настаўнікаў, на якой выбраны дэлегаты з'езда. У Мінск паедуць настаўніца Быценскай спецшколы-інтэрната Тацяна Паўлаўна Гарбелік, настаўніца Магілёўскай базавай школы Надзея Іванаўна Мархель, педагог-арганізатар Стайкаўскай СШ Ніна Аляксееўна Міланавана і настаўніца СШ № 3 г. Івацэвічы Галіна Мікалаеўна Мядзведзь. Жаночы квартэт узначальвае начальнік раённага аддзела адукацыі Васіль Мікалаевіч Басалай.

Настаўнікі звязваюць са з'ездам надзеі на паляпшэнне фінансавання галіны. Ці спраўдзяцца спадзяванні? Наўрад. Шуміхі будзе шмат, апладысментаў, эйфарыі ад сустрэчы з найвышэйшым кіраўніцтвам дзяржавы. І пасля ўсе паедуць дамоў, да сваіх праблемаў.

### Ну, не прападзем!

Дзе можна пасушыць бялізну, калі ты жывеш на чацвёртым паверсе маласямейкі, балкона і падвала не маеш? Ля дома, які прадуваецца ўсімі вятрамі і вакол якога днём і ноччу людзі, у тым ліку і не зусім сумленныя, ходзяць? Небяспечна, можна і без апошняй прасціны застацца. Тады што ж рабіць? Няма выйсця?

Няма такога становішча, сцвярджаюць жыхары маласямейкі па вуліцы Шаўчэнкі, з якога няма выйсця. Вось што яны прыдумалі для сушкі бялізны. З акна чацвёртага паверха да адзінага на дворы высокага дрэва працягнулі шнурок. Якім чынам гэта зроблена і як на гэты шнурок вешаецца, а потым здымаецца бялізна, – сакрэт умельцаў. Дрэва стаіць ад дома метраў на 7. Бялізна сушыцца на вышыні метраў 12. Глядзяць на яе гаспадыні з суседніх дамоў, зайздросцяць.

Ну, браткі-беларусы, галовы і рукі ў нас працуюць яшчэ ого-го! Не, не прападзем мы ніколі, да любой сітуацыі прыстасуемся...

● ВАША ПІСЬМО

# НЕЧАКАНАЯ ПРАБЛЕМА: ПАДРУЧНІКІ

*Паважаная рэдакцыя!*

*Разумею, што сваім выказваннем нічога не змяню, але ж хоць, як гаворыцца, душу аблегчу. Справа ў школьных падручніках. У свой час, калі я хадзіла ў школу, мы іх набывалі за свой кошт. Добра памятую, калі закончылі школу, то нас папрасілі гэтыя падручнікі здаць у бібліятэку. Вядома, без ніякай грашовай кампенсацыі. За дзякуй.*

*Цяпер жа я, маці, павінна плаціць за падручнікі для маіх дзяцей, якіх двое. Няхай не поўнасцю, часткова, але плаціць. Ну, добра, бацькам няма куды падзецца, мы заплацім. Але ж чаму мы павінны заплаціць устаноўленую плату поўнасцю, а дзеці атрымалі неабходныя камплекты не поўнасцю? У сына майго нехапае двух падручнікаў, а ў дачкі – аж 4.*

*Пытаюся ў дзяцей: калі ж вам кніжкі, якіх не хапае, дадуць? Дзеці плячыма паціскаюць. Тлумачаць, што настаўнікі кажуць: дадуць.*

*Але ж даруйце, ужо верасень заканчваецца, а падручнікаў усіх няма. Калі няма падручніка, то як і ўрокі вучыць?*

*Пагаварыла з класным кіраўніком дачкі. Яна сама абураецца такім становішчам. Больш таго, скардзіцца на сваё, як гаворыцца, дурацкае становішча. З аднаго боку, класны кіраўнік павінен патрабаваць грошы ад вучняў за падручнікі. А гэта цяпер ой нялёгка рабіць: не ўсе бацькі працуюць, не ўсе грошы маюць нават на харчаванне дзяцей. Што, на тых, хто грошы не прынясе, у суд падаваць?*

*А з другога боку, дзеці кожны дзень пытаюць пра падручнікі, якія не дадзены. Даводзіцца абяцаць, што падручнікі будуць. А час ідзе.*

***Вольга К.,***
***жыхарка г. Івацэвічы.***

Мы папрасілі пракаменціраваць гэтае пісьмо галоўнага спецыяліста па падручніках Івацэвіцкага раённага аддзела адукацыі Г. А. МЯЦЕЧКА:

– Ведаеце, да такіх пісьмаў і розных зваротаў бацькоў (тэлефонных, вусных) нельга не ставіцца са спагадай і разуменнем. На жаль, з гэтага пісьма нельга скласці дакладнае ўяўленне аб матэрыяльным стане сям'і аўтара. Таму мне давядзецца гаварыць аб праблеме падручнікаў увогуле, а пасля кожны з бацькоў прымерае, як кажуць, сказанае да сябе.

Дык вось, перш за ўсё пра плату за карыстанне падручнікамі. Як вядома (і гэта ўжо растлумачвалася ў школах, у друку) з гэтага года ўведзена частковая за іх плата. Ад яе вызваляюцца толькі тыя сем'і, у якіх адзін або абодва бацькі з'яўляюцца інвалідамі; круглыя сіроты; апякунскія сем'і; сем'і, якія па стану на 30 чэрвеня 1997 года атрымлівалі дзяржаўную 100-працэнтную дапамогу на дзяцей. 50% устаноўленага кошту за падручнікі выплачваюць тыя сем'і, у якіх выхоўваюцца трое дзяцей школьнага ці дашкольнага ўзросту.

Астатнія сем'і за падручнікі, якімі карыстаюцца іх дзеці, павінны плаціць. Але вы ж ведаеце, у якім цяпер становішчы знаходзяцца многія: у нас ёсць і беспрацоўныя, і малааплочваемыя, якія ледзь канцы з канцамі зводзяць. Людзі скардзяцца і настаўнікам, і нам у РАА, што не ў стане выдзяліць са свайго сямейнага бюджэту грошы на падручнікі для дзяцей. Што рабіць?

Некалькі дзён таму ў райвыканкам паступіла пісьмо з аблвыканкама, у якім рэкамендуецца аказваць дапамогу тым, хто сапраўды не мае магчымасці ўнесці плату за падручнікі для сваіх дзяцей. Адкуль браць грошы – з мясцовага бюджэту. Вядома, і гэты бюджэт цяпер небагаты. Але ж пасля такой рэкамендацыі аблвыканкама сродкі для маламаёмных будуць нейкім чынам выдзяляцца. Таму кожны з бацькоў, у каго галава баліць, дзе ўзяць грошы на падручнікі, павінен напісаць аб сваёй пільнай патрэбе заяву на імя старшыні райвыканкама аб вызваленні яго сына ці дачкі ад платы за падручнікі. У заяве патрэбна дакладна апісаць матэрыяльны стан сям'і. Падаваць жа заяву трэба ў школу, дзе вучацца дзеці.

Што датычыць таго, што школьнікі атрымліваюць няпоўныя камплекты падручнікаў, то тут становішча таксама маласуцяшальнае. Справа ў тым, што падручнікі ў раён у дастатковай колькасці не паступілі. Прычына ўсё тая ж – няма грошай на іх закупку. Мы, работнікі РАА, звонім у школы, просім, каб выдавалі дзецям старыя. Вядома, яны не адпавядаюць ні санітарным патрабаванням, ні новым праграмам, але ўсё ж гэта нейкае выйсце. Асаблівая праблема з тымі падручнікамі, якія выдаваліся ў Расіі. Няма ў нас грошай, каб іх закупіць. Мяркуецца, што на закупку гэтых падручнікаў (напрыклад, матэматыкі Віленкіна для 5–6 класаў, англійскай мовы для 8–9 класаў) пойдуць тыя грашовыя сродкі, якія сабяруцца ў школах ад частковай аплаты за карыстанне падручнікамі.

XXX

Вось такі каментарый. Мо хто з бацькоў запытаецца:

– Нашы дзеці без падручнікаў вучацца, а яны ў Расіі выпускаюцца. Дык чаму ж такая раскачка ці раўнадушша – у нас жа з Расіяй Саюз?

– Гм, калі гаварыць па-руску, то цяпер відавочна: **„Союз Союзом, а табачок (то бишь финансирование, обеспечение учебниками) врозь..."**



*СЕРДЕЧНО ПОЗДРАВЛЯЕМ*

*Горячо и сердечно поздравляем с юбилеем Валентину Владимировну НИКОЛАЙЧИК из д. Подстарынь.*

*Пусть жизнь улыбается вечно тебе,*
*Пусть быстро проходят невзгоды,*
*Здоровья и счастья желаем тебе*
*На долгие-долгие годы.*

*Желаем удачи, радости, добра. Пусть все труды увенчаются успехом.*

*Сестра Светлана, Леонид, Андрей и Катя.*

● АЛЁ, РЭДАКЦЫЯ?

## ХВОРЫЯ НА СІФІЛІС ЁСЦЬ. ТОЛЬКІ НЕ Ў РАДДОМЕ

Некалькі разоў у рэдакцыю "Газеты для вас" званіў па ўсёй верагоднасці малады чалавек (мяркуючы па голасу) і паведаміў, што ў радзільным аддзяленні Івацэвіцкай бальніцы знаходзіцца парадзіха, хворая на сіфіліс. Абураўся тым, што яна разам з іншымі ходзіць у сталовую, карыстаецца месцамі сангігіены. На нашу просьбу назваць сябе адмовіўся і матываваў свой адказ тым, што працуе ў райбальніцы...

Пракаменціраваць гэтае паведамленне мы папрасілі галоўнага гінеколага Івацэвіцкага раёна **М. І. Харэвіну:**

— Вам пазваніў альбо той, хто не валодае сапраўднай інфармацыяй (чуў звон, ды не ведае, дзе ён), альбо той, хто па нейкай прычыне хоча некага (ці то райбальніцу, ці то газету) скампраметаваць. Што датычыць сутнасці справы, то яна такая. Сапраўды ў радзільным аддзяленні ў нас нядаўна былі тры парадзіхі, якія некалі былі хворымі на сіфіліс. Аднак цяпер яны практычна здаровыя, аналізы крыві ў іх (адносна пробаў на сіфіліс) адмоўныя. Аднак ім пасля родаў было назначана прафілактычнае лячэнне, якое яны і атрымлівалі ў радзільным аддзяленні.

Што датычыць наогул праблемы сіфілісу, то яна ў раёне ёсць. І гэта не толькі праблема медыкаў, але і агульнасацыяльная... Такія хворыя, вядома ж, лечацца не ў раддоме, а ў спецыялізаваным дыспансеры, які знаходзіцца ў вёсцы Халап"я.

**Рэдакцыя "Газеты для вас" ў бліжэйшых нумарах звернецца да гэтай тэмы і прадаставіць слова спецыялістам-медыкам. Сачыце, калі ласка, за газетай.**

● ТАКАЯ ВОТ ЖИЗНЬ

# За недостаточностью улик...

ВОРОВАТЬ нынче стало не зазорно. Система безалаберного государственного управления размыла такие понятия, как стыд, совесть. Мошенничество, должностные преступления, подлог, взятки соседствуют со старательностью, честностью. Моральные критерии так перемешались, что иной законопослушный гражданин, отвечая на вопрос судьи, что побудило украсть тракторный прицеп леса-кругляка, с удивлением разводит руками:

– Николи не думал, што я раблю преступное дело. Мастер сказал: отвези туда-то. Я и повёз. Мне за это – бутылку самогонки.

Двое парней, ничуть не смущаясь моего присутствия, хвалятся:

– В Погорельцах (Несвижский район) сняли дом. Подкупили полевую колхозную охрану, наняли мужиков и наколачиваем за ночь по 20 мешков кукурузных початков. В Минске тоже арендуем квартиру.Поставили вторую газовую плиту на балонном газу. Там двое варят початки, а мы продаем. По пятьсот тысяч в день выходит, исключая все расходы.

Пенсионерка, пьяно ухмыляясь, жалуется подруге на рынке:

– Покойница лежит на досках. Все вышли. На пальце вот такое золотое кольцо. Я попробовала – не снимается. Кинулась в коридор, на кухню – где сын, чтоб помог, а он, зараза, побежал помогать гроб загружать. За чарку... Так и пропало кольцо. Не сняла.

Обе горестно качают головами...

Сколько таких разговоров можно услышать в автобусе, поезде, на лавочке между знакомыми, соседями. И никакого осуждения. Наоборот, сочувствие, если не удалось стащить, обмануть. Радость или зависть – при удаче. Доходит до смешного.

Бабка-уборщица приторговывает вином по утрам. Как она ехидничает, похмеляя работяг перед сменой, пьяниц, бомжей, проституток. Приноровилась носить бутылки на рабочее место, в свою кладовку. На улице ловит „небритых", в синяках, безошибочно угадывая клиента, зовет в кладовку и там угощает. Кроме обычного навара в 3-4 тысячи с поллитра, пустая посуда остается. Люди разные к ней заходят. Кто-то и положил глаз на её обстановку. Ночью ломом выставил окно, взломал дверь и унёс... 4 бутылки и два огурца. Видно, с обиды перебил ножки стола.

Это – факты. Пока не раскрытые милицией преступления, как они пишут, закрывая дело, „за недостаточностью улик".

А сколько таких историй на слуху! Говорят, одинокая старушка, бедная-пребедная, собираясь полечиться в больнице месяц-второй, на последние гроши установила металлическую дверь. Теперь-то воры не залезут. Вернулась. Дверь взломана. Она в дом. Все на месте – стол, стул, диван, газплита. Большим и не распологала. На столе записка: „Бабушка, больше так не шути".

Массовостью воровства теперь никого не удивишь. Да и разнообразием приёмов. Есть „мастера", есть и топорники. В складе автодрома просто проломили стену и унесли шведскую бензопилу. В магазин „Пинск" в 4 часа 53 минуты через витрину, разбив её, залез узник спецкомендатуры, „химик" по-народному. Интересно, как это он ухитрился уйти из-под надзора охранников?

Гаражи сейчас строят на тысячелетия. Идёт „творческое"соревнование между строителями их и ворами. Лазили последние через крышу – стали перекрывать железобетонными плитами. Злоумышленники придумали домкраты для поднятия плит. Металлические ворота– не помеха. Портативным аппаратом-газорезкой легко срезают навесы. А когда и здесь не смогли подобраться, зная, что хозяин на заработках в Москве, под предлогом ремонта просто разобрали заднюю стенку и увели мотоцикл. С концами... С всё той же записью: „За недостаточностью улик".

Мелкий грабёж, за который в былые часы осужденные валили лес на ста гектарах, сейчас будто и не считается за преступление. На заявление в милиции обещают: будем искать. И дело – под сукно. Впрочем, мы часто сами виноваты. Зачем, скажем, молодой парень согласился на предложение незнакомцев скинуться на бутылку и распить её в подвале? Угостив водкой, те „завалили" его, забрали золотое кольцо и часы „Луч". Очнулся бедолага, а собутыльников и след простыл.

Крадут друзья, родственники, супруги. Отпили, отпели, оттанцевали день рождения в квартире. Хозяева хватились – из мебельной секции пропали два золотых кольца с рубином в платиновой оправе, фотоаппарат „Кодак-КВ-10". Дочь пришла помочь матери помыть полы и „рассчиталась" сапогами. Ничего не доказав и разругавшись, поплелась домой босиком. Благо лето было на дворе.

Тащит начальство. У крупного руководителя воры забрались на дачу. Соседи услышали шум и вызвали милицию. Была составлена опись содержимого дачи: около десятка новых в скрутках ковров, пять холодильников, несколько „видиков", ящиков двадцать водки и прочего добра. Пошли пересуды. Руководящий официально заявил, что никто к нему на дачу не залезал, в милицию он не обращался. Протокол по делу исчез.

Мясоконсервный комбинат кормит треть Барановичей за полцены. Идешь по улице и тебя хватают за рукав: мясо, колбаса, обрезь. Бутылка водки или деньгами. Ещё бы! Через забор ещё куда ни шло. Все же опасно. Так наладили более надёжный путь.

Женщина-охранник, по трудовой книжке – стрелок, все просилась на постоянный пост. Куда, мол, мне старой с ружьём вдоль забора ходить. Ещё пришибут.

– Рано, – ответствовал начальник охраны, – тебя надо как следует проверить, чтобы ответственный пост поручить.

Проверил. Заболел „ответственный". Ее и поставили в дверях убойного цеха.

– Смотри в оба.

Смотрела. Перерыв на обед во вторую смену. Рабочие идут в бытовку. И каждый сунул ей в руку по тысяче. Она деньги начальнику показала.

– Ага! Хотели подкупить. Ну – мы их! Я тебе дам еще двух помощников и в конце смены обыщите каждого.

Обыскали. Не нашли и косточки. Вот как работаем!

А в протоколах и делах – „прекратить за недостаточностью улик". Не возникает ли у вас, читатели, крамольная мысль о роли некоторых работников охраны и милиции в борьбе с хищениями государственного и личного имущества? У меня возникла,когда я узнал, как рэкетиры подкатили к частному предпринимателю, добившемуся определенных успехов в бизнесе. Их встретил омоновец. Вежливо пригласил за стол. Угостил и сказал примерно следующее:

– Это мой двоюродный брат. Надеюсь, вам достаточно знакомства со мной одним, а не с моими сослуживцами-омоновцами, – и выразительно перекрестил каждого пистолетом в руке.

Есть нечего, одеться не во что, в школу ребенка отправить не в чем и не с чем. Потому, что работы нет. Предприятия на ладан дышат. И люди спасаются, увы, воровством. Полосуют друг у друга огороды, колхозные поля, чистят цехи, склады. Многие, вкусив сомнительной сладости легкой наживы, переходят в профессионалы. И с годами уже соизмеряют авторитет количеством „ходок" – отсидок в тюрьме. Ткните в каждого пятого прохожего и наверняка попадёте в бывшего „зека". Дико, но факт: они ещё и кичатся этим. Докатились! Вернее, скатились в выгребную яму сплошного воровства.

Не потому ли, что, при всей несокрушимой мощности милицейско-омоновского „кулака", профилактика правонарушений не ведется, или ведется на очень низком уровне. Так куда же направлен этот „кулак"? Задуматься бы над этим, да некогда, надо крутиться, хлеб насущный добывать. Государство о тебе не позаботится.

**П. НАГНИБЕДА.**

● СОЦИАЛЬНЫЙ АСПЕКТ

# БЕЛОРУССКОЕ ПРАВИТЕЛЬСТВО РЕГУЛЯРНО ПОВЫШАЕТ УРОВЕНЬ МИНИМАЛЬНОЙ ЗАРПЛАТЫ. НО "ВДОГОНКУ" ЗА ИНФЛЯЦИЕЙ, А НЕ ОПЕРЕЖАЯ ЕЁ

Постановлением Совета Министров Республики Беларусь № 1124 „О минимальной заработной плате и тарифной ставке первого разряда работников бюджетной сферы", принятом в конце августа, с 1 сентября минимальная заработная плата повышена на одну треть – со 150 тысяч рублей в месяц до 200 тысяч рублей, а ставка первого разряда – со 170 тысяч до 220 тысяч рублей. Однако это, второе в 1997 году, повышение уровня минимальной заработной платы нельзя воспринимать как повышение реальной зарплаты. Кроме того, белорусское правительство осталось верно своей тактике – повышает минимальную заработную плату „вдогонку" за инфляцией, а не опережая ее. Так, с 1 января 1997 года „минималка" была увеличена в полтора раза, но это повышение даже не покрыло потери населения от осенней инфляции предыдущего года. А что произошло потом? За первую половину текущего года инфляция составила 41,3 процента; плюс к этому инфляция, пусть искусственно подавленная, в июле и августе – не менее двух процентов. Минимальная же заработная плата с 1 сентября увеличена лишь на треть.

Председатель Федерации профсоюзов Беларуси Владимир Гончарик еще на стадии принятия решения о повышении „минималки" заявил в прессе, что, „по расчетам профсоюзов, нынешний рост не восстановит те покупательские способности населения, которые были на начало этого года". Единственное утешение, по мнению Владимира Гончарика, в следующем: „произойдет хотя бы какой-то сдвиг".

Конечно, лучше что-то, чем ничего. Тем более в условиях, когда накопилось столько проблем, требующих глобальной реформы заработной платы. Первая в их ряду – большая и неоправданная дифференциация заработной платы по отраслям народного хозяйства. В промышленности в июне средняя заработная плата была на уровне 2,6 миллиона рублей, а в сельском же хозяйстве – 1,2 миллиона, что ниже даже прожиточного минимума. Чрезвычайно низка заработная плата работников сферы социального обеспечения, культуры и искусства. Зато средняя заработная плата банковских работников превышает 4 миллиона рублей. Не обижены и управленческие работники, получающие среднемесячную заработную плату около 3 миллионов рублей.

Решит ли хотя бы частично эту проблему повышение минимальной заработной платы с 1 сентября? Ни на йоту. Очевидно также, что повышение минималки не скажется положительно и на сокращении просроченной задолженности по заработной плате, которая на конец августа достигла почти 800 миллиардов рублей.

Рост минимальной заработной платы, как известно, касается только работников бюджетной сферы. Но обычно это становится толчком для роста заработной платы и в сфере производства. А это в свою очередь влечет повышение цен. И необходимость увеличения минимальной заработной платы возникает вновь.

Правда, некоторые представители руководства страны – например, первый заместитель премьер-министра Петр Пракопович, – считают, что повышение минимальной зарплаты „не приведет к незапланированному росту цен, а инфляция не вырастет больше чем на 2 процента в месяц". Возможно, Прокоповичу известен некий секретный механизм, как этого добиться, который „проморгали" все остальные экономисты.

Как только в Беларуси было объявлено о повышении минимальной заработной платы, миллионы пенсионеров рассчитывали, что будут повышены и пенсии – ибо до сих пор именно так и происходило. Надежды их были тем более обоснованны, что накануне принятия постановления правительства все тот же Петр Прокопович недвусмысленно заявил о планируемом повышении трудовых пенсий. Правительственное постановление содержало даже поручение государственным органам, в том числе Министерству социальной защиты, провести с 1 сентября перерасчет пенсий, исходя из нового размера минимальной заработной платы. Однако, как объявило вслед за этим Министерство социальной защиты, ожидаемого повышения трудовых пенсий сейчас не предвидится. Это вызвано тем, что фонд социальной защиты населения не имеет достаточно средств для повышения пенсий. Как сообщила руководитель этого фонда Людмила Бачила, на начало сентября вообще имелось только 60 процентов средств от суммы, необходимой для выплаты пенсий в сентябре. Просроченная задолженность предприятий по взносам в фонд социальной защиты населения составляет сегодня 1,8 триллиона рублей. Проблема сокращения этой задолженности не решается, несмотря на рапорты об экономическом росте в стране.

В Министерстве социальной защиты, видимо, решили, что, поскольку значительное число пенсионеров – уже так называемые „миллионеры" (максимальная трудовая пенсия достигла 1260 тысяч рублей, а средняя равна 857 тысячам), то можно ограничиться, так сказать, косметическими изменениями в пенсионном обеспечении. В итоге принято решение, что с 1 сентября будут повышены только минимальные, так называемые социальные пенсии. В августе такая пенсия составляла 225 тысяч рублей (полторы минимальные заработные платы). Сейчас, возможно, ее уровень будет повышен до 300 тысяч рублей. Плюс, в соответствии с законодательством, доплата к минимальной пенсии (еще 60 процентов) – и „минимальщики" будут получать по 480 тысяч рублей в месяц. Кроме того, примерно на 100 тысяч рублей планируется увеличить размер пенсии инвалидам и ветеранам Великой Отечественной войны. Но на этом – все. Между тем, уровень средней трудовой пенсии в стране достигает сегодня только 39 процентов уровня средней заработной платы и лишь немногим более половины минимального потребительского бюджета.

**Владимир КУЛАЖЕНКО, доктор экономических наук, профессор. (БелаПАН).**

***ОТ РЕДАКЦИИ. „Газета для вас" заключила с информационной компанией БелаПАН договор на информационное обслуживание. Первый аналитический материал компании мы и представляем вашему вниманию.***

● ДАЧНЫЙ УЧАСТОК

## *Огурцы и томаты любят "тёплые" грядки*

***Если вы хотите будущим летом получить высокие урожаи овощей, готовьте с осени „теплые" грядки. Особой сложности их устройство не представляет, а эффект будет немалый.***

*Располагать грядки надо с севера на юг. Для этого выкапывается углубление сантиметров 30–40, можно и глубже, если есть в достатке материал для заполнения. Первый слой земли выбрасывается на одну сторону, остальные – на другую. Последний слой вскапывается вилами без выброса земли. На дно помещаются ветки деревьев, кустарников, стебли от подсолнечника, кукурузы, других толстостебельных растений, затем слой листьев в 20–30 см (можно соломы или травы). Слой листьев (соломы) поливается коровяком, можно раствором мочевины. Для этого слоя можно использовать также опилки, кору деревьев и другие органические остатки. Потом яма заполняется перепревшим навозом или компостом слоем 10–15 см. Сверху насыпается верхний слой земли, который вы отбросили отдельно. Слои с ветками и листьями тщательно утрамбовываются.*

*Весной грядка немного осядет, и тогда ее необходимо подровнять землей с более нижних слоев, смешать с компостом и древесной золой. При возможности в этот слой вносятся минеральные удобрения в зависимости от выращиваемой культуры.*

*На такой грядке в средних и северных широтах лучше удаются теплолюбивые огурцы, томаты, кабачки, патиссоны, перцы, баклажаны.*

● ВАШЕ ЗДОРОВЬЕ

## *Лучше всякого "Клерасила" – урина*

***Много споров ведется вокруг уринотерапии. Для тех, кто не отвергает ее категорично, предлагаем несколько советов.***

*Если по утрам, а можно и по вечерам, умываться уриной, а через полчаса просто смывать теплой водой без мыла, то никакие кремы и лосьоны, даже французские, не понадобятся. Возможно, это неприятно, но посмотрите через недельку на себя в зеркало.*

XXX

*Прополоскать рот уриной утром и на ночь, вот уж никакого кариеса не будет и горло не воспалится. Если промывать нос уриной – забудете про насморк.*

XXX

*Замучили фурункулы? В деревнях мочили тряпку уриной, клали на фурункул, обвязывали тоже тряпочкой, утром человек просыпался, а у него все прорвалось и почти зажило. И главное – больше ничего не выскакивало.*

XXX

*На Украине уриной лечат ячмень. Вскакивал у человека ячмень, через какое-то время, а может быть и сразу, человек выходил „на двор". Потом складывал на обеих руках дулю. Поворачивался лицом к своим переработанным излишкам еды и три раза показывал дулю, приговаривая: „Вот тебе, вот тебе, вот тебе". Через несколько часов, а то и через час, ячмень проходит. Опробовано не раз и не одним человеком.*

***„Домашний доктор".***

● ЗНАЕТЕ ЛИ ВЫ, ЧТО?..

## *Подарок или подкуп?*

*Существует легенда английского происхождения. Все началось с легкой руки трактирщика, имени которого история не сохранила. У дверей своей таверны он поставил окованный медью деревянный ящик, куда посетители могли кинуть монету. Надпись на ящике гласила: „Чтобы обслужили быстрее". Из начальных букв этих слов и получилось слово, которое соответствует русским чаевым и имеет параллели во многих языках.*

*Что же такое чаевые – дополнительная и добровольная плата за услуги или попытка купить чье-то расположение? Ответить на этот вопрос не всегда бывает легко.*

*Во многих странах мира слово „чаевые" отсутствует, а само явление обозначает денежный подарок.*

*В Турции, Египте, Индии и ряде других стран Востока вознаграждение за услугу называется бакшиш. Правда, со временем это слово стало означать взятку, магарыч.*

*В Западной Европе дополнительная плата за услуги, составляющая от 10 до 20 процентов от основной суммы, обычно автоматически добавляется к гостиничному или ресторанному счету. Тем, кто пока не освоился с этим правилом, рекомендуем всякий раз уточнять, включено ли обслуживание в счет. За какие-то особые, превышающие обычные рамки, услуги можно добавить немного сверху.*

*В Германии есть одна дополнительная особенность: хотя 15 процентов за обслуживание автоматически добавляют к счету, но если вы расплачиваетесь наличными и вам приносят сдачу, принято забирать только купюры, а мелочь оставлять.*

*В такси – свои правила. В самых „интернациональных" городах мира чаевые обычно включаются в плату за проезд. В других крупных городах принято давать „сверху" от 5 до 10 процентов.*

*В Китае, Исландии и на Таити к чаевым относятся отрицательно и давать их не полагается.*

*В Латинской Америке не прослеживается какой-либо более-менее четкой системы. В каждой стране и даже городе приходится решать заново, когда, кому и сколько давать. Поэтому единственный совет тем, кто собирается в Латинскую Америку (и не только туда): сразу по прибытии справьтесь у портье в гостинице или у кого-то из местных знакомых, как у них обстоит дело с чаевыми.*

# Для дома, для семьи, для души...

● ПОЛЕЗНЫЕ СОВЕТЫ

## *Как чистить ковры*

*Ковры можно промыть нашатырным спиртом, растворенным в воде. Раствор наносят на вычищенный пылесосом ковер чистой тряпкой, затем вытирают сухой тряпкой и сушат.*

*Очень грязные ковры замачивают в воде, умягченной содой или нашатырным спиртом, потом протирают щеткой, смоченной мыльно-содовым раствором, к которому добавлен скипидар (30 г на 1 л раствора), и промывают теплой и холодной водой.*

● УЛЫБНИТЕСЬ

*Супруги собираются в отпуск к морю.*

*Жена старательно и аккуратно укладывает в чемодан черное платье. Удивлённый муж спрашивает:*

*– Зачем тебе черный наряд?*

*– Ах, дорогой, ведь ты же совсем не умеешь плавать!*

XXX

*– Твоя жена умеет готовить?*

*– Готовить-то она умеет, только я не умею есть то, что она готовит.*

● ДЗЕЦІ І МЫ

## БЛІЖЭЙ ДА НАВУКІ

Лепшыя вучні Баранавіцкай станцыі юных натуралістаў Света Ціханчук і Сяржа Гардзіенка пяць дзён правялі ў Белавежскай пушчы, дзе працавалі і вучыліся пад кіраўніцтвам вучоных-батанікаў. Міша Лукашэня, Лёша і Косця Земагледчукі, Дзіма Шчэчын, Дзяніс Лундышаў і Саша Мачульскі пабывалі ў Бярэзінскім запаведніку і паглыбілі свае веды па біялогіі.

**(Наш кар.).**

● ПОСТ ДАІ

# Памеры штрафаў узраслі

Штодня на нашых вуліцах і дарогах павялічваецца колькасць самых розных здарэнняў. Іх удзельнікі атрымліваюць цялесныя пашкоджанні, ёсць нямала выпадкаў гібелі людзей. Выходзіць са строю тэхніка. Словам, наносіцца вялікая шкода народнай гаспадарцы.

Каб прыцягнуць большую ўвагу вадзіцеляў, пешаходаў, службовых асоб да выканання правілаў дарожнага руху ў сувязі з ростам дарожна-транспартных здарэнняў, з 1 верасня гэтага года значна павялічаны памеры штрафаў за некаторыя парушэнні.

Так, за выпуск на лінію машын, якія забруджваюць паветра, а таксама з пашкоджанымі глушыцелямі, што ствараюць лішні шум, службовыя асобы, вінаватыя ў гэтым, караюцца штрафам да мільёна рублёў, а раней было толькі 30 тысяч.

Індывідуальных уладальнікаў розных машын за такія ж парушэнні можам аштрафаваць на 600 тысяч рублёў.

Штраф у памеры ад 40 да 400 тысяч рублёў можа быць накладзены на тых вадзіцеляў, якія кіруюць сваім транспартам з рознымі няспраўнасцямі.

І яшчэ пра адно парушэнне. Гэта несвоечасовая рэгістрацыя, перарэгістрацыя ці непрадастаўленне ва ўстаноўлены тэрмін без уважлівых прычын тэхнічных сродкаў для тэхагляду. Памер штрафу складае ад 20 да 200 тысяч рублёў.

**У. КВАША,**
старшы дзяржаўтаінспектар Івацэвіцкага РАУС.

● СТОП-КАДР



*Дзверы адкрыты,*
*хаця і не насцеж.*
*На міг супынілася –*
*уся задуменне.*
*Як жыць будзеш далей,*
*Насценька-Насця,*
*Як парог пераступіш*
*у светлым памкненні?*

*Фотаэцюд А. ГАНЧУКА.*

## ПАДПІСКА – 97

**Падпісацца на "Газету для вас" на 4 квартал можна ў любым аддзяленні сувязі Івацэвіцкага, Баранавіцкага і Бярозаўскага раёнаў да 25 числа кожнага месяца.**

**"Газета для вас" выходзіць два разы на тыдзень: у сераду і суботу.**

**Кошт падпіскі 6.000 рублёў на месяц.**

**Наш падпісны індэкс 63834**

● КНІЖНАЯ ВІТРЫНА

## Тым, хто цікавіцца зёлкамі

*У кнігарнях з'явілася ў продажы кніга А. Журбы „Траўнік". У гэтым выданні прыводзяцца звесткі аб лекавых раслінах, якія прымяняюцца ў медыцыне і ветэрынарыі. Расказана аб правілах нарыхтоўкі, сушкі, захоўванні зёлак і прыгатаванні з іх прэпаратаў у хатніх умовах. Дадзена тэхналогія вырошчвання некаторых відаў лекавых раслін на прысядзібных участках і ў фермерскіх гаспадарках.*

*Л. САШЫН.*

● ЗДАРЭННІ

## Скачок з 9 паверха

**БАРАНАВІЧЫ.** З 9-га паверха высотнага будынка ў Паўночным мікрараёне выкінулася 60-гадовая жыхарка горада. Ад удару аб асфальт смерць наступіла імгненна. Жыхары дома расказваюць, што ахвяра часцяком прыходзіла ў гэты дом, паднімалася на 9-ы паверх, выглядвала ў акно, быццам прымерваючыся. І вось адважылася. Царства ёй нябеснае.

(Наш кар.).



● ЧТО ВОЛНУЕТ...

## СОБАКИ В ГОРОДЕ

ЛИЧНО я не считаю собаку своим меньшим братом. Я признаю её, собаку, слугой человека. Сторожем, пастухом, санитаром, помощником милиционера, артистом, благородной жертвой всевозможных научных исследователей. И, наконец, другом, снимающим стрессы, помогающим коротать время одиноким людям, забавой для детей.

Всяк пес знай свое место: к ноге! барьеру! в будку! и т. д. Человек тебя, дог или там доберман, не ровня. Он твой повелитель, владелец и хозяин. Он, человек, создал целую систему дрессировки, содержания, вообще, общения с „братьями нашими меньшими". И эта система работает, прежде всего, на него, человека. Если она точно выполняется, удобно обоим – „старшему" и „меньшему" братьям. А если нет? Тогда вот что получается.

Несколько уличных сценок, рассказанных и виденных автором.

По тротуару шла девушка, помахивая изящной сумочкой. Откуда ни возьмись, её окружила „собачья свадьба". Штук десять разноцветных, разнопородных и возрастных псин метались у её ног, выясняя свои отношения. Поцарапали туфли, погрызли сумочку, которой она отбивалась. Мужчины отогнали свору. Обошлось без крови, но настроение было испорчено.

Женщина пришла отдохнуть на скамейку, поставив рядом сумку с продуктами. Сука, любимица детворы с улицы Рокоссовского, ухитрилась стащить кольцо кровяной колбасы из сумки...

В класс вбегает третьеклассник:

– Ощенилась!

И все бросились в угол двора школы, к штабелю бревен, где жила, мучимая ими сучка. Отогнав мать, расхватали щенят и начали решать, что с ними делать: повесить, утопить, положить под колеса автомашины. Кончилось тем, что собака укусила одного школьника, защищая потомство. И была помещена в горветлечебницу на десятидневный карантин на предмет выяснения состояния её здоровья. Не больна ли? После этого была удушена в „собаколовке", как бродячая. Щенят кто-то докормил. И они разбрелись по дворам, пополнив многотысячную стаю бездомников.

Вот такая собачья жизнь в городе. Беспризорная, безответная. И бегают они в одиночку и стаями в поисках пищи и пристанища на ночь, разнося заразу, вшей и блох, кусая людей. Мешая нам спокойно ходить по улицам. Бьем мы их, давим. А толку?

Пошел я дорогой собачьей жизни и смерти. Есть ли какая служба, регулирующая, управляющая этим процессом? Так вышел на директора Барановичской спецавтобазы Владимира Ивановича Волкова.

– Да, нам поручено истребление бродячих собак и кошек. На специально оборудованной автомашине один рабочий с петлей в руках отлавливает в день 4–6 собак.

– И все?

– Больше не в состоянии. Собаки чуют машину по запаху за три версты и разбегаются. Дети его ненавидят, хотя и сами часто издеваются над животными.

– Но 4–6 собак – это мало. В городе сотни сучек и каждая из них дает такой приплод!

– Говорят, в жилищно-эксплуатационных службах принимают псов и котов за деньги.

Техник ЖЭСа подтверждает, что принимали, а теперь не носят почему-то.

Генеральный директор городского объединения жилищно-коммунального хозяйства Василий Николаевич Рытиков сразу дал понять, что собачьей проблемой никто не занимается:

– Отстреливать в городе нельзя. Усыплять ампулами-пулями дорого. Травить ядом опасно. Один собаколов не справляется. Пока нет программы борьбы с бродячими собаками. Может, со временем что и придумаем.

Каждый встречный, с кем я говорил на эту тему, был категоричен:

– Собаки заполонили город. Спасу от них нет. Детей страшно на улицу выпускать. Куда власти смотрят?

Действительно, не власти ли должны создать единую систему борьбы с бродячими собаками?

Председатель домкома в Северном жилмассиве прямо по полочкам разложил проблему и её решение:

– Кроме бродячих, досаждают домашние . Хозяева выпускают их на прогулку без поводков, намордников. И эта свора гадит в подъездах, скверах, на клумбах. Особенно любит оправляться в детских песочницах. Это не просто негигиенично, а опасно для здоровья. Как бороться? Очень просто! Милиционер, дворник, техник домоуправления, увидев такое безобразие, должен определить хозяина и предъявить ему штраф... Скажем, экологический, за нарушение общественного порядка. Где выгуливать? Построить специальные площадки. За счет налогов, взимаемых за содержание собак и кошек в квартирах. Я неоднократно предлагал рассмотреть этот вопрос на заседании горисполкома. Никакой реакции.

Ага! Вот она, зацепка! Конечно, один собаколов и два ЖЭСа, принимающие бродячих собак, которых никто не приносит, не решают проблемы. Горисполком может „возглавить" эту компанию. Изучив суть, определив опыт других городов, разработав конкретные мероприятия, закрепив ответственных лиц. Иначе собак в городе скоро будет больше, чем жителей. И тогда не миновать беды. Гланый ветеринарный врач города похвалился:

– Слава Богу, уже несколько лет не зарегистрировано случаев бешенства у животных...

На Бога надейся... А вдруг – вспышка инфекции? Горветлечебница не в состоянии выявить очаг и потушить его. Это же надо выловить всех собак. Кто это сделает? Один собаколов? Петлёй? Как ковбой? На „авось" номер не пройдет.

Собаки в городе мешают нам спокойно жить. Потому что беспризорны, не контролируемы. Никому до них нет дела. Зато у них к нам „претензии". Они хотят есть, жить, плодиться. И эти инстинкты толкают их на „преступление" – они воруют продукты, нападают на прохожих, ухудшают экологическую обстановку в городе.

**П. НАГНИБЕДА.**

Газета выдаецца на беларускай і рускай мовах. Набіраецца ў Івацэвічах, друкуецца ў Баранавіцкай друкарні (г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80). Выходзіць два разы на тыдзень: у сераду і суботу.
Фармат 420х300 мм. Аб'ём – 1 друк. аркуш.
Падпісана да друку 22 верасня ў 14.00.

Заснавальнікі: У. А. Кудзінаў, А. М. Басалай.
Газета зарэгістравана ў Дзяржаўным камітэце РБ па друку.
Пасведчанне № 694.

Рэдактар Лідзія ЦАЛУЙКА.

НАШ АДРАС: 225250, г. Івацэвічы, вул. Дзяржынскага, 30, рэдакцыя „Газеты для вас". Тэлефон 2-12-29.



Тыраж 1.000 экз.
Заказ № 2216.